Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

10 студзеня 1998 года
СУБОТА
№ 2(82)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Ліквідацыя наступстваў урагану: вынікі

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Ураган, які пранёсся над тэрыторыяй Беларусі мінулагоднім летам, асабліва адчувальныя страты нанёс лясным насаджэнням, наклаў свой адбітак на работу арганізацый і прадпрыемстваў усяго лясного комплексу. Ліквідацыя наступстваў стыхійнага бедства стала асноўнай задачай лесаводаў пацярпелых раёнаў і ўсіх, хто прыйшоў ім на дапамогу.

Напрыканцы мінулага года калегія Міністэрства лясной гаспадаркі разгледзела вынікі выканання пастановы Савета Міністраў ад 14 ліпеня 1997 года «Аб неадкладных мерах па ліквідацыі наступстваў урагану 23 чэрвеня 1997 года ў лясах Рэспублікі Беларусь».

У прынятай пастанове адзначана зладжаная работа Целяханскага лягсага — сярод лягсасаў, што найбольш пацярпелі ад стыхіі і арганізавана правялі высечку і вываз пашкоджанай драўніны. У якасці заахвочвання калектыў атрымае трактар, а кожны работнік, што браў удзел у ліквідацыі наступстваў, узнагароджваецца каштоўным падарункам і грашовай прэміяй.

Сярод лягсасаў, прыцягнутых да ўборкі бураломнай драўніны, адзначана станоўчая работа Івацэвіцкага лягсага, які выканаў даведзенае заданне ў поўным аб'ёме і ў вызначаны тэрмін. Кіраўніцтва лягсага, а таксама інжынерна-тэхнічныя работнікі, што ўдзельнічалі ў ліквідацыйнай кампаніі, узнагароджваюцца грашовымі прэміямі.

### Такія жаданыя «Дажынкі»

**БЯРОЗА.** Горад рыхтуецца стаць месцам правядзення абласных «Дажынак» 1998 г. Пэўныя рэпэтыцыяй і былі праведзеныя ў мінулым годзе кірмашы. Праўда, чаканы прыезд на іх асабіста губернатара сп. Заламая не адбыўся, і канчатковае рашэнне яшчэ, напэўна, не прынятае. Цяпер зіма, і пакуль толькі складваецца план магчымых мерапрыемстваў і падрыхтоўчых работ. Раённыя ўлады спадзяюцца атрымаць пад правядзенне «Дажынак» немалыя грошы.

● ФОТАСЮЖЭТ

## Цяжкі хлеб пенсіянера



*Я не ведаю, што дзеецца ў нябыце.*
*Ведаю адно — што мне там быць...*
*З цёмнай ночы адзінокім дзіцем*
*Я з той прорвы буду галасіць...*
*Хто мне адгукнецца ў гэтым свеце*
*Праз глухую вечнасць зім і лет?!*
*Можа, толькі сплаканыя дзеці,*
*З небыцця з'явіўшыся на свет...*
*Леанід ГАЛУБОВІЧ.*

### Па замежнай тэхналогіі

**БАРАНАВІЧЫ.** Калгас "Чырвоны сцяг" мае вялікую цяпліцную гаспадарку. Спецыялісты калгаса рашылі ўдвая павялічыць ураджайнасць гароднiны. Сумесна з ізраільскай фірмай "Немафім" яны ўкараняюць новую тэхналогію — гідрапоніку. Камп'ютэрная сістэма своечасова забяспечыць расліны неабходнымі ўгнаеннямі, прасочыць за мікракліматам у цяпліцах.

### Хто гаворыць аб праблемах, а хто іх вырашае

**БЯРОЗА.** Аб праблемах — зношанасці абсталявання, несвоечасовых пастаўках сыравіны, адсутнасці стабільных кадраў і г. д. ужо добры дзесятак гадоў гавораць на Бярозаўскім хлебакамбінаце. Вядома, гэтыя размовы ўзмацняюцца, калі пакупнікі пачынаюць прад'яўляць прэтэнзіі да якасці хлебабулачных вырабаў. Якасць гэтая іх часта не задавальняе, хлеб бывае і кіслы, і перапечаны, і недапечаны...

А вось у невялікай пякарні вёскі Першамайская пра праблемы калі і гавораць, то, напэўна, у канструктыўным плане. Хлеб пякарні, калі яго прывозяць у Бярозу, разбіраецца маментальна. Пакупнікам ужо вядомы яго выдатны смак.

Знайшлі свой рынак збыту ў Бярозе і хлебапёкі з мясцовага камбікормавага завода, і Кобрынскага хлебазавода. У мінулыя выхадныя ля перасоўнага латка гэтага хлебазавода выстраілася вялікая чарга. На зайздрасць і дакор мясцовым хлебапёкам!

### «Бульбяная» здзелка

**БЯРОЗА.** Пры правядзенні аператыўных мерапрыемстваў на дарозе Драгічын—Белаазёрск супрацоўнікі Бярозаўскага РАУС зусім выпадкова затрымалі КамАЗ, які вез бульбу ў Расію. Суправаджальных дакументаў прадпрымальніца з Пінска — абаяльная маладая жанчына — не мела, але запэўнівала міліцыянераў, што праблемаў з дакументамі не будзе.

Напэўна, так яно і было б, калі б да груза не прыглядзеліся больш уважліва. Аказалася — бульба крадзеная. Абаяльная прадпрымальніца ўзяла яе ў Драгічынскім кааппарыхтпраме са згоды яго дырэктара, намесніка і кладаўшчыка, аддзякаваўшы папярэдне за здзелку чырвонай ікрой, каньяком, наборам прадуктаў і далярамі. Усяго ў кааппарыхтпраме па папярэдніх звестках было ўкрадзена бульбы, буракоў, морквы на суму 40 мільёнаў рублёў.

Усе ўдзельнікі «бульбяной» здзелкі арыштаваны. Вядзецца следства.

### Затрыманы за хабар

**БАРАНАВІЧЫ.** 100 долараў за бясплатную даведку і крымінальную справу "зарабіў" старшыня аднаго з жыллёва-будаўнічых кааператываў горада. Член гэтага ЖБК рашыла прадаць сваю кватэру і папрасіла даведку, што кааператыў не мае прэтэнзій. Старшыня ЖБК запатрабаваў за бясплатную паперку аж 100 долараў. Ён быў затрыманы ў момант атрымання хабару.

### Турнір шахматыстаў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Першынство раёна па шахматах прынесла перамогу інжынеру Целяханскага завода стапярных вырабаў Іосіфу Гапоўчыку. На другім і трэцім месцах адпаведна інжынер Целяханскай лыжнай фабрыкі Клім Клімаў і настаўнік Воленскай СШ Генадзь Ляўчук.

Сродкі для прэміравання прызёраў першынства выдаткаваў прадпрымальнік Сяргей Кот.

● ЦЫТАТА ДНЯ

*" Мы пражылі цяжкі год. У нас нямала праблем, з якімі штодзённа сутыкаецца кожная беларуская сям'я. Але адначасова большасць з вас адчула:*
*— час сацыяльнай безнадзейнасці і псіхалагічнай дэпрэсіі мінуў;*
*— грамадства ўпэўнена і незваротна выйшла з сацыяльна-эканамічных перапляцьцяў;*
*— дзяржава ўзмацнела і ўжо здольная мэтанакіравана і сістэмна весці падтрыманую народам палітыку".*

**(З Навагодняга звароту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі да беларускага народа).**

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

### Павялічана мінімальная заработная плата

***Пастановай Савета Міністраў РБ з 1 студзеня 1998 года павялічана мінімальная заработная плата.***

Яе памер цяпер складае 250 тысяч рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы — 500 тысяч.

У сувязі з гэтым павялічваецца памер мінімальнай пенсіі. Яна ўзрасла ў студзені на 13,6 працэнта, і яе памер разам з устаноўленай урадам даплатай павялічыўся з 660 тысяч да 750 тысяч рублёў. Цяперашняе павышэнне закранула каля 700 тысяч пенсіянераў.

### Дапамога на дзяцей: новыя памеры

***З Новага года памеры штомесячных дапамог сем'ям, што выхоўваюць дзяцей, павялічваюцца амаль у два разы.***

Калі раней памеры дапамог вызначаліся зыходзячы з мінімальнай зарплаты, то зараз яны "прывязваюцца" да мінімальнага спажывецкага бюджэту па стану на верасень папярэдняга года. У верасні 1997 года МСБ склаў 2 млн. 36 тыс. 622 рублі. На яго аснове і зроблены пераразлік на гэты год. На працягу яго памеры не будуць змяняцца. Адно, што будзе рабіцца, індэксацыя гэтых дапамог з улікам росту цэн.

Калі прадпрыемства ці, скажам, калгас не мае сродкаў, яго кіраўнік абавязаны звярнуцца ў аддзел сацыяльнай абароны па месцы жыхарства. Грошы на дапамогі ў такім выпадку будуць выдаткаваны з Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

### Дробязь, а прыемна

***Згодна з пастановай урада Рэспублікі Беларусь з пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі выдаткавана 250 мільярдаў рублёў.***

Гэтыя сродкі пойдуць на закуп больш чым 60 зерняўборачных камбайнаў "Дон-1500" з іх наступнай перадачай у калгасы і саўгасы на ўмовах доўгатэрміновай арэнды.

### У новым Саюзе грошай на Чарнобыль няма

***На нечарговай сесіі міжпарламенцкага сходу Расіі і Беларусі зацверджаны першы бюджэт абноўленага Саюза ў памеры больш як 500 мільёнаў расійскіх рублёў пасля дэнамінацыі. Доля Расіі складае 65, Беларусі — 35 працэнтаў.***

Прадстаўнікі Беларусі І. Драбышэўская і М. Худая ўзнялі пытанне аб фінансаванні чарнобыльскіх праграм з бюджэту Саюза. Памкненні сябрюў па Садружнасці спыніў расійскі віцэ-прэм'ер В. Сярой, які заявіў, што грошай для гэтых мэт у новым бюджэце не будзе.

Тым не менш, у гэтым бюджэце знайшліся грошы на часопіс "Саюз" і на ўтрыманне чыноўнікаў. Ім перападае 6 працэнтаў ад агульнай сумы.

### Паляванне працягваецца

***У Польшчы арыштаваны кіраўнік Мінскай фірмы "Пушэ" Аляксандр Пупейка. Паліцыя затрымала яго па просьбе беларускіх праваахоўных органаў.***

Існуе версія, што прадпрымальнік абвінавачваецца ў незаконным атрыманні крэдыту ў 1 млн. 200 тыс. долараў ЗША ў Аграпрамбанку ў 1994 годзе. Некаторыя палітыкі схільныя лічыць гэта пачаткам кампаніі супраць былога прэм'ер-міністра М. Чыгіра, бо менавіта ён у той час узначальваў вышэйзгаданы банк. Другія лічаць арышт А. Пупейкі як асабістую помсту прэзідэнта за адмову прафінансаваць выбарчую прэзідэнцкую кампанію апошняга.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Печать с печатью на устах

*Газета «Свабода» закрыта. Оппозиция лишена сильнодействующего на умы людей средства массовой информации. Говорят, коллектив редакции, предчувствуя беду, зарегистрировал новое печатное издание, страницы которого увидят свет уже, конечно, в этом году.*

*Среди журналистской братии всех уровней бытует сейчас мнение, что «Свабода» попала под гильотину предполагаемых поправок и дополнений, которые наш парламент пытается внести в Закон о печати. Недаром против них выступила пишущая братия, общественность многих стран.*

Привыкшие к драконовским мерам, принимаемым государственной властью к гражданам-«ослушникам», мы въедливо изучали каждую строку этого документа, выискивая явную и скрытую угрозу свободе слова в средствах массовай информации, справедливо рассуждая, что намордник, накинутый на журналиста – это кляп в устах народа. Теперь не каждый отважится дать острую статью, рискуя нарушить Закон и этим прикрыть газету, лишить весь коллектив куска хлеба, а читателей – любимого издания. Или разориться под штрафами Комитета по печати и другими органами управления и власти.

Потому и насторожились журналисты, называя поправки попыткой государства держать печать, радио, телевидение в ежовых рукавицах. Есть за что бороться. 965 изданий питают население информацией. 300 из них поддерживается правительством. В народе их называют придворными. 650 — независимые. Вроде как в оппозиции. 15 – с неопределившимся направлением. Выжидают, надо понимать. Вкупе они формируют общественное мнение. Создают определенное напряжение в информационном поле страны. Одни пытаются быть объективными в меру своих сил и возможностей, другие работают по указке «сверху».

Исправленный Закон, по мнению оппозиции, призван согнуть в бараний рог независимые издания, стерилизовать напряжённую мысль свободолюбивых «писак». Но все согласны с тем, что Закон о СМИ нужен. И такой, чтобы расставить точки над «і», создать каждому журналисту, изданию благоприятные условия для творческого труда и обеспечить граждан правдивой, полезной, широкой информацией. Миллионам читателей так хотелось бы услышать правду о действительном положении дел в стране, расстановке политических сил. Видеть перспективу, а не обещания, туманные, не подкрепленные точным экономическим расчетом. Обмениваться идеями, мнениями, предложениями по улучшению жизни не когда-то, через годы, десятилетия, а сейчас.

Странно все-таки. Закон по идее – за журналистов, а на деле – против, что ли? Одни указания и запреты, обязанности и обязательства. Прав почти никаких. Гарантированы только штрафы и закрытия. Без суда и следствия. Вопреки мировой практике. Как же тогда выносить на всенародное обсуждение глобальные проблемы нашей жизни? По закрытым каналам в виде инструкций, указаний и рекомендаций? Но они недоступны нам, простым смертным.Это не открытый, откровенный разговор масс через средства массовой информации. Без злобы, предвзятости, клеветы. Кстати, Закон предусматривает ответственность за необъективность печатных выступлений. Только не оговорены критерии этой объективности. За что, например, нашего брата, стремящегося быть в горячих точках общественной жизни, в первую очередь бьют дубинками при исполнении служебных обязанностей? Арестовывают, как преступников только за то, что мы хотим донести читателям правду о том или ином событии? Почему с нами пытаются говорить свысока чиновники разных уровней, вводя в заблуждение ложной информацией, а то и просто указывают на дверь? В такой ситуации мы сами испытываем информационный голод и не в силах «накормить» ею читателей.

Вот обсудили поправки и дополнения в Закон, выслушали инициаторы его и авторы мнение народа, а остались при своем. Теперь дело за рутинной работой, как сказал Президент. Соблюсти необходимые формальности и утвердить. А я хочу сказать об упущениях и довольно существенных.

Первое. Предоставление Комитету по печати права приостанавливать издание органа на срок от одного месяца до года совершенно неприемлемое, противоречащее международным нормам права и нашим же законам. Суд и только суд может принять такие жестокие меры к зарвавшемуся журналисту, редактору, коллективу редакции, определить степень общественной опасности выступления, размер материального или морального ущерба, нанесенного государству, любому юридическому, физическому лицу.

Второе. С первого дня перестройки журналистов лишили права быть глашатаями народного волеизъявления. И если им удается осветить проблему, читатель ждет реакции властей, чиновников. А не дождавшись, разочаровывается в этой власти, теряет веру в справедливость. И тогда приходится поднимать пошатнувшийся авторитет с помощью «вертикальных» подпорок. Поэтому в Законе должна быть статья, предусматривающая обязательность реагирования на критические выступления СМИ — всех, как государственных,- так и независимых. Указ Президента, предусматривающий необходимость реагирования не только на критические выступления государственных СМИ еще раз подтверждает, что свобода печати у нас только декларируется. Независимые издания открыто ставятся в положение изгоев в своем же государстве.

Третье. Доступность журналистов к источникам информации. Закон также должен предусматривать обязательность ответственных лиц в предоставлении корреспонденту соответствующей информации. Свободное участие и передвижение его, по своему усмотрению, во всех массовых мероприятиях. Право посещения митингов, собраний, предприятий, организаций, учреждений. Конечно, открыто и с согласия руководителей и представителей власти. Быть может для этого необходимо впечатывать в удостоверения редакции выписку из Закона. Для тех, кто не удосужился ознакомиться с ним и чинит неправомерные препятствия работе журналиста.

Такой единый подход к средствам массовой информации уменьшит противостояние между отдельными изданиями, повысит качество печатного материала, его результативность. От этого выиграет прежде всего государство, народ.

Четвертое. Неприкосновенность личности журналиста. Когда он не нарушает общественный порядок, не поддается провокационным действиям толпы, добросовестно выполняет свои обязанности, он должен чувствовать защиту государства от посягательств на его права, здоровье, честь и достоинство.

Ещё не поздно законодателям снизойти к нуждам журналистского корпуса и запросам населения в объективной и полной информации. Привести Закон в соответствие с мировой практикой действительной свободы слова с учетом, конечно, особенностей нашей республики. Тогда оппозиция, та же газета «Свабода», не будут рассматриваться, как «враги», а как дополнительные средства в объективном обсуждении путей выхода республики из экономического тупика.

*П. НАГНИБЕДА.*

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# *Што ў цябе на вячэру, беларус?*

Вядома, у кожнага сваё. У аднаго стол ломіцца ад прадуктаў, а ў другога – няма чаго пакласці на яго. Такіх, другіх, пераважная большасць.

Напярэдадні Новага года я паспрабаваў, сумесна са спецыялістамі прафсаюзаў, прыкінуць, што ж зможа «сярэднестатыстычны» беларус пакласці на свой вячэрні стол. І вось што атрымалася.

Той, хто зарабляе крыху болей двух мільёнаў рублёў у месяц (а такіх вельмі шмат, бо сярэдняя зарплата ў кастрычніку мінулага года склала 2,7 мільёна рублёў), на свае грошы зможа купіць на месяц кілаграм ялавічыны, крыху болей за паўкіло мукі пшанічнай, макаронаў і каўбасы, 10 літраў малака і г. д. Праўдзём невялікія разлікі. У месяцы, як вядома, трыццаць дзён. Дзелім кілаграм ялавічыны на 30 частак і атрымліваем 33 грамы. А ў дзень хочацца есці тры разы. Такім чынам, на вячэру застаецца ўсяго 11 грамаў. Уяўляеце, колькі гэта? Кароткі, як трэць запалкі, чарвячок фаршу.

Такія ж разлікі па другіх прадуктах паказалі, што на вячэру беларус зможа купіць сабе яшчэ 100 грамаў хлеба, 6 грамаў каўбасы, адну бульбіну, 1/5 яйка, 1/3 чацвярцінкі яблыка. Вось такая вячэра ў «сярэднестатыстычнага» беларуса ў гэтыя марозныя вечары. Хацелася б, каб у святочныя наваго̀днія дні, калі прынята не толькі піць, але і думаць, кожны «вертыкальшчык» паклаў на край стала вось такія порцыі прадуктаў і задумаўся аб выніках свайго кіраўніцтва.

Тым болей што многія грамадзяне, найперш пенсіянеры, не могуць мець на вячэру і такі мізер. Нагадаю, што мінімальны спажывецкі бюджэт ужо перавалій за мільён. А сярэдні заробак у работнікаў сельскай гаспадаркі, культуры, сацыяльнага забеспячэння толькі крышачку болей за 1,5 мільёна рублёў. Значыць, яны – за рысай жабрацтва.

Яшчэ лічба для роздуму. У снежні 1990 года працаўнік на сваю зарплату мог не толькі сам пракарміцца, але і карміць і апранаць яшчэ дваіх чалавек. Цяпер жа ён ледзь-ледзь зможа сам харчавацца. А за што карміць дзяцей?

Вось такі невясёлы, несвяточны аповяд атрымаўся. Але што зробіш, такое рэальнае жыццё.

*Я. ТАЎГЕНЬ.*

ОФИЦИАЛЬНО

# НЕ ЗАБУДЬТЕ ПРЕДСТАВИТЬ ДЕКЛАРАЦИЮ О ДОХОДАХ

Государственный налоговый комитет Республики Беларусь напоминает, что в соответствии со статьей 20 Закона Республики Беларусь «О бюджете Республики Беларусь на 1997 год» с 1 января 1997 года исчисление подоходного налога с доходов физических лиц производится исходя из совокупного годового дохода.

Исчисление налога будет производиться по истечении календарного года налоговыми органами на основании декларации налогоплательщиков о совокупном годовом доходе и (или) сообщений, поступающих от предприятий, учреждений, организаций или предпринимателей, осуществляющих деятельность без образования юридического лица. Разница между исчисленной налоговыми органами по ставкам статьи 14 Закона «О подоходном налоге с граждан» суммой налога с совокупного годового дохода и суммами налога, удержанными (уплаченными) в течение года у источников выплаты доходов, подлежит уплате физическими лицами не позднее 15 марта или возврату (зачету) налоговым органами.

Физические лица – граждане Республики Беларусь, иностранные граждане и лица без гражданства, имеющие постоянное место жительства в Республике Беларусь, обязаны не позднее 15 февраля следующего за отчетным годом представить в налоговый орган по месту своего постоянного места жительства декларацию о совокупном годовом доходе. Отчетный год определен с 1 января по 31 декабря включительно.

Декларацию о совокупном годовом доходе обязаны представить:

— физические лица, которые в отчетном году по месту основной работы кроме доходов за выполнение трудовых обязанностей и приравненных к ним доходов получили доходы на основании договоров подряда, продолжительностью более 2 месяцев в году, авторские вознаграждения, вознаграждения за рационализаторские предложения, доходы от аренды движимого или недвижимого имущества, доходы от реализации ценных бумаг;

— физические лица, которые наряду с доходами по месту основной работы получили от других источников – предприятий, учреждений, организаций или предпринимателей, осуществляющих деятельность без образования юридического лица, доходы за выполнение разовых работ, работ по совместительству, работ на основании договоров гражданско-правового характера (договоров подряда независимо от их продолжительности в отчетном году, авторских договоров и др.), выплаты по месту прежней работы, доходы от предпринимательской деятельности, доходы за границей или из-за границы и другие доходы;

— физические лица, не имеющие места основной работы, получившие в отчетном году вышеперечисленные доходы более чем от одного источника дохода.

Освобождены от представления декларации о совокупном доходе:

— физические лица, получившие в отчетном году доходы только от выполнения трудовых обязанностей и приравненные к ним доходы только по месту основной работы (службы, учебы), хотя бы и менявшие в течение отчетного года место основной работы;

— физические лица, не имевшие в отчетном году места основной работы и получившие доходы от выполнения разовых работ, работ по совместительству, работ на основании договоров гражданско-правового характера, только от одного из источников доходов;

— физические лица, у которых полученный совокупный годовой доход от предприятий, учреждений и организаций и предпринимателей в отчетном году не превысил доход, с которого исчисление налога производится по минимальной ставке, указанной в статье 14 Закона ( т. е. доход, не превышающий 19.400.000 рублей).

От подачи деклараций независимо от размера полученного дохода не освобождаются предприниматели, осуществляющие деятельность без образования юридического лица, а также другие физические лица, получившие в отчетном году доходы ( от продажи движимого и недвижимого имущества или сдачи этого имущества в аренду, наем, доходы из-за границы или за границей, доходы при распределении уставного фонда в связи с выбытием из состава учредителей или переуступки другому лицу, суммы по решению суда в возмещение морального ущерба и другие), по которым налог исчисляется непосредственно налоговым органом.

Декларация представляет собой письменное заявление на бланке установленной формы о полученных в течение отчетного года доходах, произведенных расходах, связанных с получением этих доходов, а также о суммах удержанных налогов с этих доходов у источников выплат доходов, сведениях о льготах, право на которые имеет гражданин. При этом физическое лицо вправе обратиться к источнику выплаты дохода (предприятию, учреждению, организации или предпринимателю), где ему будет выдана справка о сумме начисленного дохода и размере удержанного налога.

О том, как заполнить декларацию о совокупном годовом доходе, можно узнать в налоговой инспекции по месту своего постоянного жительства, где при необходимости будет оказана помощь в заполнении декларации. Бланки деклараций инспекциями Государственного налогового комитета выдаются бесплатно.

Необходимо помнить, что действующим законодательством за уклонение от подачи декларации о доходах предусмотрена административная ответственность в виде штрафа от двух- до пятикратной минимальной заработной платы. Своевременно не уплаченные в бюджет суммы налога взыскиваются с плательщиков с начислением за каждый день просрочки (включая день уплаты) пени в размере учетной ставки Национального банка, действующей на момент взыскания средств, а также с удержанием в виде санкции 10 процентов причитающихся сумм налога.

*Управление методологии исчисления налогов с физических лиц и прочих доходов ГНК РБ.*

КРЫМІНАЛ

# Канец «салодкай» аперацыі

Ноччу з 13 на 14 снежня з канторы Івацэвіцкага гаспадарча-разліковага прарабскага ўчастка ўкрадзены навагодні пядарункі дзецям на агульную суму звыш трох мільёнаў рублёў. Хто мог пакваціцца на пакеты з цукеркамі і пячэннем, іншымі салодкімі ласункамі да навагодняй ёлкі?

Думалі і прыйшлі да высновы, што гэта справа рук не дарослых, не прафесійных злодзеяў, а дзяцей, відома, не першакласнікаў. Але ж урэшце-рэшт, хто рашыў паласавацца і пазбавіць дзяцей работнікаў участка навагодняй радасці?

Перабралі, так сказаць, усіх маладых рабочых прарабскага ўчастка і ў час гутаркі спыніліся на непаўналетнім рабочым Асіпіку (дарэчы, на днях яму споўніцца 18).

Аказваецца (а гэта ўжо высветлена) гэты Асіпік разам з навучэнцамі Івацэвіцкага ПТВ-162 і старэйшымі школьнікамі з райцэнтра здзейснілі так званую салодкую аперацыю. А дзейнічалі надзвычай проста і прымітыўна. Разбілі шкло ў фортачцы, адкрылі акно і забралі чужыя падарункі. Шукаць іх не прыйшлося, бо Асіпік ведаў, дзе яны ляжаць.

Вось такі фінал гэтай гісторыі з крадзяжом навагодніх падарункаў. А непаўналетніх злодзеяў і іх наводчыка (усяго пяць чалавек) чакае пакаранне, так сказаць, «віншаванне» з Новым годам.

*А. ГЛУШЭНЯ, начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

НАРОДНЫ КАЛЯНДАР



# Студзень

*Старажытныя славяне называлі другі месяц зімы сечань (секчы, рыхтаваць дровы) ці просінец (просінь у небе). У старабеларускай пісьменнасці для яго абазначэння ўжывалася назва стычань, і лічыўся ён адзінаццатым месяцам года.*

*Сучасная беларуская назва яскрава адлюстроўвае самую халодную пару года: яна паходзіць ад слова «сцюдзёны». Рускае найменне паходзіць ад лацінскай назвы januarius — рымскі цар Нума Памплілій увёў яе ў VII стагоддзі да н. э. як прысвячэнне Янусу — богу рымлян.*

*За студзень дзень павялічваецца на паўтары гадзіны.*

**13. Другая куцця.** Напярэдадні старога Новага года варажылі: калі вечарам неба яснае і шмат зорак — будзе ўраджай на грыбы; калі ідзе снег і мяцеліца — летам будуць раіцца пчолы.

**14. Стары Новы год, Васілле.** Калі снег у гэты дзень падае з самага ранку — чакай снежнай зімы; калі вецер дзьме з усходу — будзе гарачае лета; калі з поўдня — умеранае; заходні вецер абяцае мокрае лета, паўночны — халоднае, з градам.

**19. Вадохрышча.** Снег у гэты дзень — добра будуць раіцца пчолы і бульбы вырасце многа; зорная ноч напярэдадні — ягад будзе густа і буйна ды гарох уродзіць. Пахмурна — багаты ўраджай збожжа, ясна — наадварот; калі выдасца цёплы дзень, насыпле снегу — хлебная ніва густою будзе, але на капусце шмат вусеняў; завіруха — і на Вялікдзень такое ж будзе надвор'е.

**20. Дзень памяці Іаана Хрысціцеля.**

**23. Рыгор.** Калі выпадзе шэрань — год будзе мокры.

**25. Таццяна.** Марознае, сонечнае надвор'е абяцала ранні прылёт птушак, а снегапад — дажджлівае лета.

**31. Апанас.** «Гусінае» свята. Мяцеліца ў гэты дзень варажыла на тое, што багата выведецца гусянят і вясна будзе працяглая.

СЛУЖБА 01

# Закарцела ноччу пакурыць

Яшчэ нярэдка здараецца такое, калі цыгарэта ў руках п'янага чалавека становіцца ледзь ці не забойцай. А што тычыцца цыгарэты, як прычыны ўзнікнення пажару, то тут, здаецца, ёй увогуле няма роўных. Вось і жыхар Івацэвічаў Міхаіл Мікалаевіч Кірылюк вярнуўся дамоў позна ўвечары моцна п'яным. Адразу ж улёгся на канапу і заснуў. Каля двух гадзінаў ночы прачнуўся і яму закарцела пакурыць. Жаданне сваё здзейсніў тут жа. Прыкурыў цыгарэту і зноў выцягнуўся на канапе.

Жонка п'янага курца, Валянціна Пятроўна, сярод ночы прачнулася і адчула моцны, рэзкі смурод. І жахнулася ўбачанаму: усё памяшканне летняй кухні, дзе жылі Кірылюкі, было запоўнена дымам, які ўядаўся ў вочы, пяршыў у роце, а па сцяне, каля якой стаяла канапа, скакалі невялічкія язычкі агню. Жанчына кінулася да мужа, з цяжкасцю разбудзіла яго. Выпівака адразу ж уцяміў, што тут да чаго, і разам з жонкай выцягнуў тлеючы матрац на вуліцу. Залілі яго вадой і дружна ўзяліся заліваць гарэўшую сцяну вадой са студні. Але полымя разгаралася з куды большай хуткасцю, чым падносілі ваду пагарэльцы. Давялося выклікаць пажарных гарадской пажарнай часці, якія ліквідавалі ўзгаранне. На гэты раз пранесла, але ці будзе так заўсёды, пакуль гаспадар не адмовіцца ад сваёй згубнай звычкі — п'янага курэння ў ложку?

*В. МОЛАШ, ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС Івацэвіцкага раёна.*

ВАША ПІСЬМО

# Рынку нужен порядок

Чистота — залог здоровья. Эту прописную истину знает любой взрослый человек. Но что же он делает для ее выполнения?

Однажды пришла идея городскому начальству открыть в Березе малый рынок. Открыли. Заасфальтировали территорию, но сделали это наспех. Покрытие получилось неровным, без стока. В результате вся грязь, весь мусор расстекаются по рынку. К торговым ларькам — не подойти. Предприниматели придумали: кто доски или кирпичи положил, кто шлак насыпал под ноги покупателям. Из-за этого нельзя подмести. Снег подолгу не убирается, а если убирается, то не вывозится и тает там же.

Архитектор города решил сделать порядок на рынке: потребовал поставить ларьки в ряд улучшить их внешний вид. И одновременно помог директору рынка решить туалетный вопрос: кому надо, пожалуйста, за ларьки.

Нашлись огромные деньги на чугунный забор вокруг большого рынка, на богатую крышу над головой его директора, на электроотопление. На такие же «мелочи», как туалет и нормальный асфальт, денег нет. Директор рынка по-видимому не умеет решать вопросы благоустройства.

Людям, управляющим городом, хочется подсказать идею: отдать рынок в аренду тем, кто там работает. Уверена: о смогут навести порядок.

*Алина ДЕНИСЮК, жительница г. Березы.*

ВНИМАНИЮ РЫБОЛОВОВ

# Налим нерестится

Единственный представитель семейства тресковых в нашей республике налим — любитель студеной чистой воды настолько, что даже нерестится в глухую зиму, когда все воды скованы толстым льдом. Правда, рыболовы умеют ловить его и в такую суровую пору. Но настоящий рыболов-любитель никогда не ловит рыбу в период нереста, дает ей возможность без помех отметать икру.

Тем же, кто еще не совсем твердо усвоил этот простой жизненный закон, напоминаем, что приказом Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь № 332 от 26 ноября 1997 года в период нереста налима с 25 декабря 1997 г. по 28 февраля 1998 г. запрещен его лов на всех водоемах республики.

Эти несложные меры позволят сохранить численность прекрасной рыбы на нормальном уровне. И тогда после окончания нереста любители снова выедут на водоемы с донками ловить налимов.



УСПАМІНЫ ДЗЯЦІНСТВА

# «Скажы, маці, як нявесту зваці...»

Сёння наш вечар, наша свята, свята дзятвы. Сягоння — перадднавагодні вечар. Вясёлым, шумлівым гуртам бегаем пад вокнамі і крычым адзін перад другім, на розныя галасы: «Скажы, маці, як жаніха зваці?», «Скажы, маці, як нявесту зваці?».

І ўраз змаўкаем у чаканні. Толькі чутна ў марознай цішыні наша гарачае, частае дыханне ды кожны чуе ў грудзях, як калоціцца, стукае сэрца.

Фіранкі расхіляюцца, і праз марозныя дзівосныя ўзоры на шыбах мы бачым перад сабою ўсмешлівыя, зычлівыя твары дарослых. І чуем у адказ самыя пацешныя імёны. Цішыня адразу ўзрываецца выбухам звонкага смеху, і мы тут жа навыперадкі, штурхаючы адзін аднаго, ва ўвесь дых ляцім да наступнай хаты, каб там зноў пачуць самыя невераагодныя імёны, і каб там зноў парушыць цішыню сваім нястрымным смехам.

І нас зусім не крыўдзяць адказы за вокнамі. Мы ведаем, што ў гэты вечар дарослыя з намі, яны разумеюць нашу вясёласць.

І мы ўсе будзем мясіць і мясіць гурбы, як молатае шкло, снег, каб у гэты вечар напоўніць вясковую вуліцу смехам і гоманам. А на ўсю гэтую весялосць будзе ўзірацца далёкае зорнае неба з яркім бясстрасным месяцам.

*А. ЗАЙКА, настаўнік Запалянскай СШ Івацэвіцкага раёна.*


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу. Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш. Надпісана да друку 8 студзеня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас". Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас". вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы. Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Тыраж 1450. Заказ 4.